Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 44 (95). Вільня, Аўторак 31 Траўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска: на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал. Для заграніцы удвая даражэй. Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Значэньне самаўрадаў.

Цяпер, калі ёсьць весткі аб хуткім вызначэньні выбараў да самаўрадаў на ўсім абшары Заходняе Беларусі, мы забіраем яшчэ раз голас на старонках нашае газэты, каб выясьніць значэньне самаўрадаў для нашага сялянства. Дык вось, у руках самаўраду знаходзяцца: утрыманьне школаў, напраўка дарогаў, аказаньне лякарскае дапамогі і многа іншых важных галінаў сялянскага гаспадарчага жыцьця. Самаўрад, калі ён будзе запраўды адпавядаць сваім заданьням заўсёды патрапіць арганізаваць крэдытовыя касы, ды іншыя віды коопэрацыі, а гэта гавора што самаўрад мае вялікае значэньне. Мы адзначаем, што ў руках самаўраду знаходзіцца ўтрыманьне школаў, г. зн., што на самаўрадах ляжыць абавязак: утрымаць памешканьне для школы, як: наняць гмах, калі няма школьнага будынку, даць апал і абслугу. На ўсё гэта грошы бяруцца з сялянства, дык і трэба, каб яны рацыянальна былі выкарыстаны, каб яны не раскідаліся. І вось гэтым павінен кіраваць самаўрад.

Яшчэ мы адзначылі, што абавязкам самаўраду ёсьць направа дарогаў. Гэта таксама важная галіна самаўрадавае гаспадаркі. Год у год мы плацім дарожны падатак, але-ж бачым, што грошы гінуць і направы дарогаў няма. Бывалі гэтакія выпадкі, што старосты тлумачаць гэтакія зьявы тым, што быццам тых грошай, якія зьбіраюцца на направу дарогаў хапае толькі на ўтрыманьне пэрсоналу, які абслугоўвае дарожныя ўстановы. Дык толькі дзеля гэтага ніякая направа дарогаў немагчыма. І вось, тут мы адразу бачым, што калі гэтак, дык у дарожнай галіне самаўраду істнуе вялікі нялад. Тут паўстае пытаньне: навошта ўтрымліваць гэтакі дарожны апарат, які зьядае ўсе сродкі? Ці-ж ня лепей было-б зьменшыць гэты апарат, а на тыя сродкі нешта, хоць маленькае, але-ж вочавіднае зрабіць. Упарадкаваць гэта павінен самаўрад.

І яшчэ мы адзначылі, што на самаўрадах ляжыць абавязак аказываць лякарскую дапамогу. І тут, таксама трэба ўмела гаспадараваць, бо калі будзе праводзіцца абы як, дык і будуць нашы грошы гінуць на марна.

Вялікую ролю можа адыграць самаўрад і ў адбудове зьнішчаных вайною гаспадарак, а таксама і ў правядзеньні зямельнае рэформы ды ў агранамічнай і землябробскай дапамозе.

Пры адбудове самаўрад будзе заўсёды дбаць, як найлепей выкарыстаць сродкі, якія будзе мець і павінен дапамагаць у першую чаргу таму, хто запраўды ў гэтым адчувае патрэбы. Дагэтуль адбудоўваліся нашым коштам вайсковыя асаднікі, ды польскія калёністы.

Ды ізноў вось прыходзіцца прыкмячаць імкненьне нашага сялянства да пераходу на хутары. Дык і тут роля самаўраду вельмі вялікая, бо хто-ж, як не самаўрад можа зьдзейсьніць гэта?

Самаўрад будзе выясьняць магчымасьці, а таксама вышукваць сродкі на камасацыю, павінен дамагацца ад дзяржаўных установаў прырэзкі зямлі і г. д., а таксама павінен глядзець за тым, каб прадстаўнікі ўлады не надужывалі свае уладзы, ды каб ня зьдзекаваліся над сялянствам.

Нават і ў тых крыўдах, якія гэтак часта робіць нам польская адміністрацыя і паліцыя, самаўрад таксама можа многа зрабіць, каб абараніць жыхарства.

Адносна вышэй успомнянае агранамічнае ды землябробскае дапамогі, можна сказаць, што яна можа выяўляцца ў тым, што самаўрад абавязкава павінен дбаць аб павышэньні землясробскае культуры ды аб прыстасаваньні да ўжытку рожных машынаў, навозаў і іншых тэхнічных удасканаленьняў.

Што датыкае коопэрацыі, дык самаўрад і тут таксама можа вясьці вялікую працу. Калі ў самаўрадзе знайдуцца здольныя і энэргічныя працаўнікі, дык могуць паўстаць крэдытовыя таварыствы, спажывецкія коопэратывы і г. д.

Ужо з гэтага невялічкага агляду відаць, што значэньне самаўрадаў для нашага гаспадарчага жыцьця—проста такі вялікае, дык і трэба адносьціся да выбараў паважна, а гэта створыць адпаведныя самаўрады, якія ўмелым гаспадараваньнем заўсёды патрапяць меньш браць, а болей даць, якія, будуць старацца панізіць падаткі і даць максімум карысьці.

## САМАВОЛЯ ПАЛІЦЫІ.

Мы ўжо няраз пісалі, што рэпрэзэнтатары польскае ўлады адзначаюцца тым, што не шануюць сваіх уласных законаў.

Ведама, за гэта яны вельмі дорага плацяць, бо ня маюць пашаны ад свайго грамадзянства і даверу ад заграніцы. Найлепшым фактам выказаньня няверы да польскага ўраду можа служыць тая валакіта, якая ўжо паўгода цягнецца ў справе грашовай пазыкі ў Амэрыцы.

Мы ўжо і аб гэтым пісалі, дык болей ня будзем пакуль-што варочацца да гэтае справы, а зразу пяройдзем да тэмы нашага артыкулу: да непашаны самою ўладаю сваіх-жа законаў.

Як ведама, Беларускі Сялянскі Саюз—легальная партыя і як арганізацыя, што ўзьнікла не нарушаючы істнуючыя законы, не павінна быць перасьледавана ўладаю. Павінна быць, але-ж сыстэматычна здараецца нешта зусім іншае. А гэта іншае і ёсьць тое, што ўлада, якая афіцыяльна быццам прызнае Беларускі Сялянскі Саюз, фактычна тэрорызуе яго сяброў.

Паліцэйскія ўлады прыходзяць на кватэру сяброў Сялянскага Саюзу і без ніякіх на гэта прычынаў забіраюць літэратуру, а нават сяброўскія білеты. Не абходзіцца і тут без правакацыі і дэфэнзыўнага шпікоўства. Каб сьцвердзіць гэта фактамі, падаём некалькі словаў з лісту, які мы атрымалі з Маладэчанскага павету.

Двох паліцыянтаў №№ 2212 і 1866 Бэніцкага пастарунку прышлі да грамадзяніна Паўлюка Асіповіча ў вёску Громавічы і сталі рабіць яму закіды ў тым, што ён запісвае сялян у Сялянскі Саюз. Дык вось і паўстае пытаньне: дзе-ж тут законнасьць? Калі дзяржаўны закон дапускае істнаваньне Беларускага Сялянскага Саюзу, дык якое-ж мае права паліцэйскі чапляцца да таго, хто ўпісваецца ў гэтую партыю?

Далей паліцыянты запатрэбавалі ад Т. Асіповіча аддачы ім партыйных білетаў. Білеты, якія былі толькі-што атрыманы і не разданы сябром на рукі, паліцыя прыказала аднясьці на пастарунак. І дзіўна тое, што камэндант ужо знаў нумары сяброўскіх білетаў, дык і тут паўстае пытаньне, адкуль, як ня з пошты ён даведаўся аб гэтым?

Робячы гэтыя беззаконнасьці камэндант пачаў крычаць і пужаць сяброў Сялянскага Саюзу даказваючы, што пасол Рагуля старшыня Саюзу, які падпісаў білеты, ужо арыштаваны, ды што і сяброў усіх хутка пасадзяць у крымінал. Рабілася ўсё гэта а 10 гадзіне вечарам і гэтак буйна, што ўстрывожыла ўсю вёску.

Дык вось, ці-ж мала гэтага, каб апраўдаць наш сказ, што рэпрэзэнтатары польскае ўлады не шануюць законаў свае дзяржавы? І ці могуць яны за беззаконныя дзействы чакаць ад стэрорызаванага жыхарства пашаны для сябе?

Ясна, што не.

Пратэстуючы проці гэтых беззаконных учынкаў паліцыі, мы заклікаем сваіх сяброў не траціць стойкасьці духа і не ўпадаць у роспач. Наша цьвёрдасьць змусіць уладу лічыцца з намі.

Беларускі Сялянскі Саюз—легальная арганізацыя, якая мае легальную праграму і статут і арганізацыйная праца гэтай партыі ня дасьць прычынаў для рэпрэсіяў, а калі ёсьць прычэпкі да сяброў, дык гэта выяўляе злую волю. З праявалі гэтага самадумства мы будзем змагацца.

**Ад Рэдакцыі:** У гэтай справе пасол Ф. Ярэміч — старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу зьвярнуўся да ўладаў з пісьменнай інтэрвэнцыяй.

чы, на'т большая, чым у самым кале; але гэтая сіла мочы прападае дарма, калі будзе ў стайні падсьцілацца толькі салома. Калі-ж хоць па троху падсьцілаць торфу, ці падцярушваць зямлі, дык — усё багацьце гною астаецца ў ім, а тагды ўсю сілу гною ў цэласьці вывезеш на поле.

Пераканацца ў гэтым можа кожны гаспадар. Пэўна ведаеце, як пасьля начы калі адчыніш стайню, б'е адтуль дух. Гэты гной, што дае гэтак у нос і ёсьць сіла конскага гною (аманьяк), які выходзіць з параю, а знача — дарма прападае. Падсып-жа толькі вечарам зямлі ў стайню, а на заўтра гэтага духу ня будзе, бо зямля ўсю мочу ўцягае ў сябе і толькі ўжо на поле карэньні расьліны выкарыстоўваюць з гэтае сілы. Сілу і карысьць конскае мочы, можна ўжо пазнаць з тых густых і вялікіх кустоў збажыны, якія ўзрастаюць на полі на тым месцы дзе часамі, гаручы, вымачыўся конь.

Зімою, калі ў час вільгатнейшы, а ў будынку цесна бывае, прыходзіцца гной вывозіць у поле. Дык вось і трэба яго гэтак складаць там на поле каб менш ішло на страту. Часта здараецца бачыць, што гной раскідаюць у полі маленькімі кучкамі. Ад гэтага бывае страта і то вялікая страта вартасьці і сілы гною.

Вывозячы зімою гной на поле трэба яго раскідаць роўнымі, тонкімі пластамі, або злажыць у вялізарныя кучы перасьцілаючы торфам, і гэтак сама прыкрываць яго і зьверху.

Калі наш селянін добра навучыцца і будзе разумна і ўмела карыстацца гноем, дык будзе мець ад гною бязумоўна многа болей карысьці чым мае цяпер. Гной, які вырабляецца ў хлявах жывёлаю зьяўляецца найлепшым гноем, так што ніякі, ані штучны ані зялёны гной не заменяць яго; умелае выкарыстаньне гною і ёсьць найважнэйшая справа земляробства.

Стах Жупель.

# Да нас пішуць.

## З жыцьця нашае воласьці.

(Пружаншчына).

Нядаўна ў м. Сельцы звар'яцеў селянін з гэтага-ж мястэчка Гаворка. Ён усё ходзіць па ўрадавых установах, лаець на чым сьвет стаіць паноў, скаржыцца на людзкую несправядлівасьць і лятуціць аб недалёкім вызваленьні з пад ярма... 3-га мая, калі паны сьвяткавалі ўгодкі сваей канстытуцыі, ён з сякераю прыбег да гміннага ўраду і на кавалкі парубаў вывеску з „orłem białym"... Ледзь удалося паліцыі супакоіць нешчасьлівага.

14.V. с. г. дырэктар пан Рэдзько, у лесе прыналежным да маёнтку Селец, застрэліў карову селяніна з м. Сельца (і то найбяднейшага з усяго мястэчка). Апраўдваецца ён, што быццам карова застрэляна ім не наўмысна, бо ён страляў на качку(?). Як-бы яно там ня было, але-ж селянін усё-ж такі астаўся без каровы. Ці-ж ня зьдзек?

## Перасьцярога.

У м. Тэлеханах, Косаўскага пав., пражывае часова Паляк Тычынскі, той самы, якога нядаўна ўпёр у вастрог паштар Паліва. Як відаць, дык яны памяняліся ролямі, бо цяпер Паліва сядзіць у вастрозе, а Тычынскі выкануе яго функцыі—дэфэнзыўшчыка. Тычынскі сядзеў у пружанскім вастрозе 3 месяцы, папаў туды за тое, што п'яны лаяў урад Пілсудскага ды пяяў Інтэрнацыянал, аб чым куды належыцца данёс Паліва.

Аднаго пекнага дня (ў часе, калі ён яшчэ сядзеў у вастрозе) паклікалі гэтага Тычынскага да вастрожнае канцэлярыі. А калі вярнуўся адтуль, дык гэтак вырас, што шмат каму, пасварыўшыся ў вастрозе, ужо пагражаў амаль не „танталавымі мукамі", хвалячыся, што цяпер ён сіла!... Відаць пашоў яму на здароўе новы хлеб...

Пакуль я сам сядзеў там-жа, я ня меў магчымасьці напісаць аб гэтым раней; цяпер лічу сваім абавязкам папярадзіць грамадзян м. Тэлеханаў, каб яны ня мелі ніякіх справаў з Тычынскім. Праўда, ён глухі як цяцера і на'т выбуху гарматы пад вухам ня пачуў-бы, але і гэтакі недалуга можа пасадзіць у вастрог шмат нявінных... Асьцерагайцеся, бо асьцярожнага і Бог сьцеража.

Оса.

## І тут рэформа...

(В-ка Сьвяцніца, Ваўкавыскага пав.).

Зямельная рэформа ўсё-ж такі праводзіцца! Можа хто запярэчыць мне?... Зараз дакажу праўдзівасьць сваіх словаў, бо вось наўкола нашае вёскі відаць гэта... Дый як-жа маю називаць, як не рэформаю, напрыклад гэтакую вось зьяву?

Вялікі абшар дворнае зямлі ў м-ку Сьвянціца даўно ўжо распарцаляваны і насаджаны на ём асаднікі ды каляністыя, а цяпер вось дайшла чарга і да царкоўнае зямлі...

Усё-ж такі турбуецца польскі ўрад, бачыце, забярэ маёнтак ды аддасьць польскаму сялянству, аб беларускім падумае, каб пазбавіць яго зямелькі... Вялікія турботы ўрад з гэтым мае. Іншых словаў нельга прытарнаваць да гэтага, калі адбіраецца зямля ад парафіі ды перадаецца некальнім чалавекам, якіх урад находзіць і лёяльнымі і добрымі Палякамі, а гэтакія, як ведама, толькі за Бугам водзяцца. Разам з гэтым раскажу ўжо і аб тым, чаму гэта парцэлюецца зямля нашае царкоўнае парафіі.

Як толькі паўстала Польшча, дык польскі ўрад і пачаў напраўляць тыя крыўды, якія прычыніў Палякам расейскі ўрад. Перш-на-перш вярнуліся да польскае духоўнае ўлады тыя касьцёлы, якія былі перароблены царскім урадам на царквы. Ня буду аб гэтым спрачацца, можа гэта хоць трохі ды слушна. Але разам з гэтым урад пачаў рабіць і крыўды.

Тыя царквы, якія некалі былі вуніяцкія, але якія разам з парахвіямі перайшлі ў праваслаўе і цяпер на'т і слухаць аб вуніі з каліцкім касьцёлам ня хочуць, польскі ўрад таксама адабраў і аддаў польскай уладзе. Але-ж справа на гэтым ня спынілася. Урад пайшоў далей і яшчэ мацней пачаў крыўдзіць праваслаўнае грамадзянства. Справа ў тым, што ўрад нашоў, што замнога ёсьць царкоўных парахвіяў, дык трэба некаторыя скасаваць. І вось, пад гэты ручэй урадавай крыўды папала наша парахвія.

Ніякія просьбы да гэтых часоў не памаглі. Парахвія скасавана, а зямля перайшла да зямельнага камісара на парцэляцыю. Дык і пэўна будзе аддана каляністым з этнаграфічнае Польшчы, бо да гэтага часу ўсякія захады тутэйшага сялянства адхіляюцца.

Гмах царквы яшчэ стаіць без ніякага вырашэньня. Робяцца захады перад уладаю, каб парахвія асталася хоць „няштатнаю". Што будзе—няведама. А тымчасам, сьвяшчэньнік, які прыяжджае з другое парахвіі, сяды-тады адпраўляць набажэнства. Ня верыцца, каб урад прыхіліўся да нашае просьбы, але дзякуючы, таму, што ёсьць у Польшчы многа „кампэтэнтных" установаў, дык пакуль перабярэш іх усе, пройдзе кавалак часу, а гэта самае дапамагло вам утрымаць царкву, вось ужо тры гады і, дзякаваць Богу, няма ведама калі канчыцца...

Вінаград.

# Ліст у Рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Не адмоўце надрукаваць ніжэй падавае:

Гэтымі днямі я дастаў ліст з аднаго з пагранічных мястэчак такога зьместу:

Пане Пасол Ярэміч!

Папераджаім Вас, што Вы за сваю дзеяцельнасьць дурнай брахні якую размазаваеце амаль ня у кожным нумары „Сял. Нівы" дастаніця магільны вянок. Гэта збудзіцца не забаўна, калі не зьменіця сваей натуры рабога лыскі. Даем Вам каротні час для паправы. І моцна запомні гэты дзень і гэту картку, бо атрымаіш пулю.

Папярадзіў: Праваднік Бан.

(—) Янка Пулядаўчы.

Далей два подпісы аднэй рукой.

4.IV. 1927 год.

Падаючы гэты ліст да публічнага ведама, аднамасна адказваю пісакам падобных лістоў, што я ніякіх пагрозаў не баюся, і калі гэта напісалі маладыя і гарачыя галавы па свайму пачыну, то раіў-бы ім больш займацца навукаю, а калі пісалі па загаду, то гэта даказвае іх і іхніх загадчыкаў вялікую слабасьць.

Ф. Ярэміч, пасол Сойму.

**Ад Рэдакцыі:** Ліст з пагрозай паслу Ярэмічу зьмяшчаем дасл‑оўна з усімі абмылкамі.

# НАШАЯ ПОШТА.

**Смірноў І., Грамабоеў, Шушаўскі маладзец, Мусіць Ен, Оса, Расток:** Карэспандэнцыі атрымалі, памагчымасьці зьмесьцім.

**Толька:** Матэрыялы атрымалі, разгледзім.

**К. Вольшэвічу:** Па 1 зл. перадалі ў „Саху" і ў „Крыніцу".

**Саўчыц В.:** Ваш верш трохі заслабы, пішыце карэспандэнцыі.

**Дзярэза:** Жарты дасталі, памагчымасьці зьмесьцім.

Лапку Ўл., Шпакоўскаму П.: Газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Сока Антона — 8 зл.; Плюшы Адольфа;— 2 зл.

Бурака Андрэя, Казіміра Вальшэвіча, кс. І. Шчаснага. — Па 1 зл.









Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.